

# ПЕСНЯ ПРА СТАЛІНА

Верш М. КЛІМКОВІЧА



Завітай к нам родны Сталін,
Паглядзі, чым край наш стаў,
Што ад панскае няволі
Ты у бойцы адстаяў.

Не пазнаеш Беларусі,
Што стагнала з веку ў век,
Абнавіўся край шчаслівы,
Стаў шчаслівым чалавек.



Ўстрэнем мы цябе, як бацьку
Правадыр наш дарагі,
Дываном пасцелем ў ногі
Ўсе мурожныя лугі.



Зашуміць, як мора, жыта
Залатое на раллі,
Нізка склоняць буйны колас
Пладаносныя палі.

Нашых фабрык і заводаў
Стане горды, мужны строй,
Пагранічнікі-героі
Пройдуць лаваю стальной.



Як каліна к сонцу кветкі
Паднімае на лугах,
Мы дзяцей сваіх паднімем
К табе, родны, на руках.

Каб ты ведаў, як расце наш
Край шчаслівы з года ў год,
Як цябе, наш бацька, любіць
Беларускі наш народ.









ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Чэрвень 1939 г. № 6.

# АДВАЖНЫ ВАДЗІК

Апавяданне ХВ. ШЫНКЛЕРА

*Сёлета праводзіцца рэканструкцыя Менскага чыгуначнага вакзала. Пасля перабудовы ён будзе адным з лепшых і прыгажэйшых вакзалаў Савецкага Саюза.*

*У ўрыўку з твора Хв. Шынклера, які мы друкуем, расказваецца пра падзеі, якія адбываліся на гэтым вакзале 19 год назад—11 ліпеня 1920 года.*

---

З усіх амаль бакоў горад ахоплен заравам пажару. Разам з пошугамі полымя ўзнімаюцца ў вышыню роспачныя крыкі і падаюць, рассяваюцца па ўсім наваколлі.

І ноч не спыніла грабяжу і раз'юшанага гвалту белапалякаў над насельніцтвам горада. Лютуюць панскія ваякі. Разбітыя на фронце, вымушаныя пакінуць і Менск, жудаснымі здзекамі адзначаюць яны апошнія гадзіны свайго панавання.

Не спіцца Вадзіку. Шырока раскрытыя вочы яго ўпіваюцца ў цемру пакоя. Напружаны слух ловіць крыкі і енкі... у хаос бязладных гукаў уварваўся новы, разарваў іх і прыціснуў сваім раскатным гулам. Жаласліва застагналі ў вокнах шыбы. А праз мінуту запанавала ў горадзе цішыня, нібы застыгла ўсё, скамянела... Але ізноў скаланулася ноч. Ізноў нібы забразгалі гіганцкія молаты па вялізных лістах жалеза.

— Узарвалі мост! Ах, гадаўё!..—тужліва шэпча бацька Вадзіка, чыгуначны кандуктар. Сотні разоў праязджаў ён праз гэты мост. І напэўна не памыліўся, вызначаючы месца выбуху.

І ізноў даносяцца з горада крыкі роспачы і болю...

Трывожны сон ахапіў зморанага Вадзіка. Страшныя кашмары душаць яго. Раз за разам ускрыквае Вадзік, непакойна кідаецца па пасцелі.

Раптам—гучныя крыкі, сумятня на вуліцы, потым у хаце. Падхапіўся Вадзік, насілу расплюшчвае як волавам налітыя павекі. Ужо настала раніца. Сонца, ахутанае дымным туманам, засмучана пазірае на зямлю. А ў хаце—нікога. Вадзік падышоў да акна. Па вуліцы бягуць мужчыны, жанчыны. Але, больш чым дарослых—дзяцей.

Вунь—падскокваючы прабег Пецька-машыніст, шырока размахваючы рукамі паімчаў Сцёпка-сігналіст, яго старaецца перагнаць Міцька-стрэлачнік,—усе прыяцелі Вадзікавы, прозвішчамі якіх і „прафесіяй" у гульнях былі службовыя пасады іхніх бацькоў.

Вадзік-кандуктар выбег на вуліцу; даганяючы сваіх таварышоў, ён умомант апынуўся на рагу завулка, што вядзе да вакзала, і—замёр на месцы...

З грозным гудам шугаюць яркія вогненныя хвалі праз вокны і дзверы вакзала. Языкі полымя ірвуцца ўсё вышэй, усё нахабней, яны ліжуць ужо цынкавы дах камяніцы. Дах агорнуты дымам—густым і шчытным як вата. Дым набывае сіне-зялёны колер, у ім прарываюцца аранжавыя агеньчыкі. Гарыць, плавіцца цынк, буйнымі ізумруднымі кроплямі падае на брук.

Вогнішча шырыцца. Нясцерпна гарачае, яно абпальвае твары, сушыць вочы, сціскае дыханне ў невялічкага натоўпу чыгуначнікаў, што сабраліся на процілеглым краю пад'езда. Стаіць натоўп моўчкі, скамянеўшы. Нібы зачараваныя, уставіліся ўсе ў задымлены будынак вакзала.

І не прыкмеціў ніхто, як зніклі з натоўпу Вадзік і яго дружбакі. Убачылі толькі, як напрасцяк—праз пусты пад'езд—праімчалася чародка хлапцоў да заходняга крыла вакзала,—хто з сякерай, хто з ломам, лапатай.

І, як адзін, зразумелі ўсе: заходняя старана вогнішча небяспечная, тут блізка стаіць драўляны багажны склад, а далей—школа, службовыя будынкі. Цяжка, балюча перажываючы пажар вакзала, дарослыя не заўважылі таго, што ўмомант схапіў розум дзяцей.

Нервова загрукалі сякеры, ламы. Затрашчалі дошкі. І ў гэтых звыклых, простых гуках чулася адважная супярэчлівасць нахабнаму гуду полымя.

І крануўся з месца натоўп, разам кінуўся праз пад'езд. Сякеры і ламы перайшлі ў рукі дарослых. Бурыўся склад, ператвараўся ў кучы пакрышаных дошак.








А хлапчукі ізноў зніклі.

З крыкам, падбадзёрваючы сябе, цягнулі яны з задымленых, але яшчэ не ахопленых полымем, крайніх пакояў вакзала гранаты, скрыні з патронамі. На бруку пад'езда ў некалькі мінут вырасла куча жоўта-бліскучых шкляных капсуляў, напоўненых белаватым парашком—запальваючым саставам. І, як паважныя вартавыя, стаялі ля ўсёй гэтай зброі агню і смерці грузныя шасцідзюймовыя снарады

— А-а-а... Дык яны не толькі спаліць,—яны ўзарваць вакзал надумалі!—І рынуліся ў вакзал дарослыя, цягнулі на пад'езд рэшткі падрыўнога снаражэння.

— Менш даць жэрці полымю! Як мага больш выратаваць!—думка гэтая авалодала кожным.

Бачыў Вадзік, як выцягваў бацька з вакзала сталы, шафы. Трывожным позіркам шукаў бацька Вадзіка, а як угледзеў—не перашкаджаў, не лаяўся. Бачыў ён: і хлапечыя рукі шмат чаго зрабіць могуць.

Гордыя пачатай справай, перакінуліся хлопцы на платформе, на калеях да ўсходняга крыла вакзала. Туды таксама ўжо дабіралася полымя. Загрымелі на бруку пад'езда павыкіданыя шафы, сталы, канапы.

— Хлопцы! Міцька! Пецька! Сюды!— пачуўся вокліч Вадзіка з задымленых пакояў.

Хлопцы-дружбакі кінуліся ў вакзал. Вадзік круціўся ў пакоі дзяжурнага па станцыі ля агромнага металічнага апарата, які займаў ледзь не ўвесь прасценак. Гладкія, лакіраваныя сценкі апарата прыкрывалі складаны механізм з безлічы найдрабнейшых частак. Пройдзе па частках гэтых электрычны ток і загрукоча апарат, зазвоняць званочкі, заскачуць у круглых вакенцах чырвоныя і белыя значкі і тады адкрываюцца або закрываюцца на калеях семафоры, рушаць або спыняюцца паязды. Складаны апарат, які распарадкуе чыгуначны рух ва ўсе бакі станцыі.

— Блок-апарат!—гукнуў Сцёпка-сігналіст і закашляўся ад дыму.

— Будзь здароў! Без цябе не ведалі...— пакрыўдзіўся Вадзік.

— Ды я... Гэта-ж колькі грошай каштуе... Такая патрэбная прылада...

Вадзік з усяе сілы ўпіраўся плячом у апарат, а той нават і не пахіснуўся.

— Што-ж рабіць?..—Вадзік задумліва абмервае вокам цяжкую махіну.

— Я пабягу па бацьку!—прапанаваў Колька-тэлеграфіст.

— Не хутка твая тэлеграма дойдзе! Агонь чакаць не будзе...

— Мы самі!

— Бярыся, хлопцы!

Шчыльна абкружылі дружбакі апарат. Абарваліся драцяныя правады, зарыпелі па падлозе ножкі-падстаўкі, павольна хістаючыся крануўся з месца блакіровачны апарат, весела бразнулі званочкі.

Намагаючы апошнія сілы, задыхаючыся ўжо ад прагорклага, едкага дыму, цягнулі хлапчукі каштоўны апарат на платформу, падалей ад ненажэрнага агню. Потым кінуліся зноў да вакзала, але ратаваць ужо не было чаго...

Пажэрла полымя ўсе драўляныя часткі, сціхла. Лёгкі дымок сцелецца ля закураных, пачарнелых сцен. Свецяцца навылёт дзіры вокнаў, правалы ўваходаў.

У горад уступіла Чырвоная армія. Вуліцы поўняцца радаснымі натоўпамі людзей. Ясна і горача свеціць сонца.

# Герой рускага народа



*(Апавяданне аб Іване Сусаніне.)*

З гісторыі СССР вы, рэбята, ведаеце, што стварэнне і ўмацаванне рускай нацыянальнай дзяржавы праходзіла ва ўмовах жорсткай барацьбы рускага народа з рознымі іншаземнымі ворагамі. Ворагі хацелі захапіць землі Русі, а рускі народ зрабіць сваімі рабамі.

Найбольш небяспечнымі ворагамі для Русі ў канцы XVI і пачатку XVII стагоддзяў былі польскія паны. Пасля раду няўдалых спроб палякам нарэшце ў 1610 г. удалося захапіць Маскву і пасадзіць на рускі пастол польскага каралевіча Владзіслава. У гэтым ім дапамаглі здраднікі рускія баяры, супроць якіх у гэты час змагаліся, замучаныя прыгонам, сяляне. Баяры хацелі з дапамогай польскіх паноў падавіць сялянскія паўстанні.

Аднак не доўга давялося палякам гаспадарыць над рускім народам,—народнае апалчэнне, пад кіраўніцтвам Мініна і Пажарскага, у 1612 г. разграміла гэтых захватчыкаў і выгнала з Масквы. Рускі народ не хацеў жыць у няволі польскіх паноў і грознай сілай падняўся на барацьбу з сваімі заклятымі ворагамі.

Гісторыя нашага народа ведае не мала імён слаўных герояў, якія, не шкадуючы жыцця, змагаліся за сваю родную зямлю, за незалежнасць краіны. Сярод іх выдатнейшае месца заняў Іван Сусанін.

* * *

Іван Осіпавіч Сусанін нарадзіўся ў сяле Домніна Кастрамской губерні і павета, пасля жыў у суседнім сяле Дзеравенькі.

Шмат год пражыў Іван Осіпавіч. Старасць пакрыла белым срэбрам галаву і бараду, але ў цёмна-шэрых яго вачах яшчэ па маладому загараліся бліскучыя іскаркі. Уздоўж і поперак выхадзіў Сусанін за сваё доўгае жыццё не толькі ваколіцы свайго сяла, але і ўвесь павет. Зімой, з капканам і стрэльбай-крамнёўкай ён забіраўся ў самую глуш лясоў, акружаўшых на сотні вёрст непраходнай сцяной сяло Дзеравенькі. А летам, седзячы на беразе рэчкі Водыш, слухаў яе ціхае журчанне, празрыстай і чыстай, як крыштал, вады, шэлест лістоў стагодніх дрэў, навісшых сваімі верхавінамі над вадой, і вудзіў рыбу.

Моцна любіў Сусанін гэтыя куточкі рускай зямлі. Тут ён узгадаваўся, тут, у кругу сям'і і блізкіх аднасяльчан, ён правёў лепшыя годы свайго жыцця. Але больш за ўсё любіў Іван Осіпавіч рускі народ.



Грабеж і здзек над сялянамі працягваўся ўсю ноч.

Зіма 1612 года. Снежныя завеі белым каўром пакрылі ўсю ваколіцу, нідзе не прайсці, ні праехаць. Гэта была самая неспакойная зіма з усіх, якія пражыў Сусанін. Узброеныя ватагі палякаў, як гоні ваўкоў, рыскалі па вёсках, грабілі і забівалі людзей. Трывога ахапіла і сяло Дзеравенькі. Як толькі пачынала цямнець, сяляне збіраліся ў хаты, а дзверы запіралі моцнымі засовамі.



Сусанін цвёрдымі крокамі вышаў з натоўпу.

Ніхто не паліў лучнікоў[1]. Людзі не спалі ўсю ноч.

Месяцы не расставаўся Сусанін з думкай як выратаваць рускі народ ад прыгнечання польскіх паноў.—„Загіне Русь,—думаў Сусанін,—калі царом у ёй будзе польскі каралевіч Уладзіслаў“.

Вечарэла. Сонца хавалася за стромкія верхавіны хвой. Доўгія цені паўзлі праз узгоркі і лагчыны і цёмнымі плямамі клаліся на адліваўшыя золатам апошніх праменняў заходзячага сонца снежныя прасторы. З-за лесу выскачылі сотні тры коннікаў; іх вопратка сведчыла аб тым, што гэта палякі. Як снежны віхор наляцелі палякі на сяло Дзеравенькі. Затрашчалі дзверы і вокны ў сялянскіх хатах. Крыкі збіваемых людзей агаласілі ваколіцы. Усё, што было нажыта за годы крывавым сялянскім мазалём, у момант вока разграбіла п'яная ватага. Грабеж і здзек над сялянамі працягваўся ўсю ноч.

Уранку палякі сагналі ўсіх жыхароў на сельскую плошчу.

— Халопы!—звярнуўся да сабраўшыхся польскі ваявода з доўгай бліскучай шабляй пры боку.—Нам трэба ў Маскву, але мы збіліся з дарогі. Хто з вас лепш ведае гэты край і правядзе нас?

Усе маўчалі, ніхто не хацеў стаць здраднікам і праводзіць ворага к сэрцу Русі—Маскве.

— Што, няма такіх!—зароў, пачырванеўшы ад злосці, як печаны рак, ваявода.—Дык я зараз загадаю майму атраду і ад вас застанецца толькі мокрае месца.

Сусанін акінуў вострым позіркам землякоў, разбітыя вокны і дзверы сялянскіх хат і цвёрдымі крокамі вышаў з натоўпу.

— Восьмы дзесятак хаджу па гэтых ваколіцах і лепш за мяне ніхто дарогі не ведае. Я пакажу вам як прайсці ў Маскву.

А сам думаў: „Убачыце вы, паночкі, Маскву, як сваю патыліцу. Я завяду вас туды, адкуль і воран касцей вашых не вынесе“.

Палякі селі на коней і выехалі з вёскі. Уперадзе іх ішоў з палкай у руках Сусанін.

З поўдня разыгралася мяцеліца. Густы снег паваліў з цёмных хмар. Глуха шумеў цёмны бор.

Дарогу хутка занесла снегам. Ісці станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Сусанін выбіваўся з сіл, але думка аб тым, што ён з'яўляецца адным з тых, хто выратоўвае рускі народ ад смерці і разарэння, падбадзёрвала яго і прыдавала сілы.

Непрыкметна для палякаў Сусанін вышоў з дарогі і павёў іх густым лесам, сярод якога сустракаліся непраходныя балоты. Звечарэла. Палякі выбіліся з сіл. Лес

---

[1] Прылада, з дапамогай якой асвятляліся сялянскія хаты лучынай.



Сусанін павёў іх густым лесам.

у вячэрнім змроку станавіўся непраходным.

— Куды ты вядзеш нас, чортаў халоп!— закрычалі палякі. — Вядзі да бліжэйшай вёскі на нач.

— Вяду я вас якраз туды, куды і патрэбна,—адказаў Сусанін.—Вёска ўжо недалёка, а праз яе ідзе і дарога ў Маскву.

Напружваючы апошнія сілы палякі вымушаны былі прадаўжаць сваё падарожжа. Праз некаторы час пачаліся топкія балоты. Ехаць далей было нельга, коні тапіліся. Палякі вымушаны былі кінуць іх і, вязнучы па пояс у балоце, плесціся пехатой.

— Стой, пракляты дзед, ты не туды вядзеш нас! Гэтак мы і за тыдзень не дойдзем з табой да начлегу.

— Стары я ўжо стаў і відаць на старасці стаў забывацца,—адказаў Сусанін.— Мусіць-такі і сапраўды мы крыху збіліся з дарогі...

Удары панскіх бізуноў як град пасыпаліся на Сусаніна, але ён не чуў болю, ён гарэў жаданнем—завесці палякаў як можна далей, каб яны назад ніколі ўжо не вярнуліся.

— Што-ж,—сказаў Сусанін—забіць мяне вы яшчэ паспееце, але дарогі без мяне вам не знайсці.

Гэта не на жарт спалохала палякаў, моўчкі яны карабкаліся па балоце за Сусаніным далей.

Набліжалася поўнач, а дарогі ўсё не было, апошнія сілы пакідалі палякаў.

— Слухай, дзед!—звярнуўся да Сусаніна ваявода.—Праз гадзіну завядзі нас у вёску, і я ўзнагароджу цябе, чым ты пажадаеш; дам табе колькі захочаш золата... Ты станеш самым багатым чалавекам. Інакш—цябе чакае смерць.

Сусанін, змераўшы ў думках пройдзеную адлегласць, рашыў, што далей ісці няма патрэбы і з ненавісцю ў голасе адказаў:

— Эх вы, сабачыя душы! Вы думаеце, што Сусанін стане здраднікам, за ваша паганае золата прадасць сваю родную зямлю, свой народ? Дык ведайце-ж, што я пайшоў на смерць па сваёй добрай волі і зрабіў гэта для таго, каб знішчыць вас і спасці

Русь ад гібелі. Я завёў вас туды, куды і шэры воўк не забягаў, куды і каршун злы касцей не заносіў... Кругом вас лес і непраходныя балоты, яны стануць вашай магілай. Не бачыць вам Масквы, а Уладзіславу не быць рускім царом.

Пасечаны шаблямі Сусанін паў мёртвым. За сваю родную зямлю, за свой народ ён загінуў смерцю героя.

Шмат гадоў прайшло з таго часу. Даўно спарахнелі ў балотнай магіле варожыя косці. Але народ помніць і ніколі не забудзе свайго героя Івана Осіпавіча Сусаніна.

Варта напомніць сучасным фашысцкім драпежнікам, што ў выпадку нападу на нашу квітнеючую соцыялістычную радзіму ўрок польскіх паноў будзе паўторан ім з значна большай сілай.



# ВОБЛАКА

Верш А. КУЛЯШОВА

Уткнуўшы ў бераг вудзільна,
Я вуджу раніцою.
А воблака? Плыве яно
І небам, і вадою.

Нарэшце клюнула разок—
І рыбка не малая!—
З пяром гусіным паплавок
Пад воблака нырае.
Стаіў дыханне. Цішыня...

У бок,
рукой умелай,
Я падсякаю галаўня,
Цягну з хмарынкі белай.

Вада ў кругах,
Вада ў кругах
І неба ў ёй не тое...
А воблака? Яно ў руках
Трапечыцца жывое.



# У лесе

*Верш А. РАДЗЮКА*

Бы пярыначка, лятае
Над арэшнікам матыль,
Кулічок дзесь напявае:
— Тылі-тылі!
— Тылі-тыль!

На паляначчы у скоках
Спрытна кружыць цецярук,
Узлятае невысока,
Апускаецца на сук.
А на дрэве дзесь далёка
Дзяцел стукае:
— Дук-дук...
Сцеле пах густы маліна,
З ёю верас, мох, чабрэц...
Важна ўсеўшы на галінах
Б'е ў глухі званок глушэц.
А зязюля недзе ў лесе
Выгаварвае:
— Ку-ку!..
Гукі мчацца ў паднябессе
Ўдаль за поле, за раку!



# ЛЕТАМ

Верш **ЯКУБА КОЛАСА**

Ну-ж, і волі, волі
У гаю за вёскай!
А цяплынь, цяплынь!
Весела на полі,
Слаўна пад бярозкай,
Хоць ты сядзь спачынь.

Палюбуйся толькі—
Травы—што не збрысці,
Кветак не злічыць!
Гойдаюцца голькі
А па гольках лісце
Сонцамі блішчыць.

Пчолкі, матылёчкі,
Як сняжынкі тыя
Мільгацяць вакол.

Жоўтыя. пясочкі—
Крупкі залатыя,
Хоць бяры ў прыпол!

Ды хіба ты ўседзіш
У такой раскошы
Сярод кветак, траў?
Што там зглядзеў Федзя?
Што знайшоў Цімоша
І Дружка пазваў?



І ўсе яны трое
Збіліся маўкліва
Шчыльненька ў гурток.
Ну, што там такое?
Ну, што там за дзіва?
Думае Дружок.

Нават Коля з сеткай
Стаў нібы на варту
І глядзіць на іх.

А лявей над кветкай
Прысядае Марта
Шчаслівей за ўсіх.

Між двух дрэў сястрычка
Брацікa за руку
З кошыкам вядзе.
Мусіць, у сунічкі
Унь у тыя лукі
Брат з сяст

Добра Янку ў г
Люба на пах
Пагуляць
Толькі
Ку
Р

# Маці і дачка

Нарыс Е. САДОЎСКАГА

Олечцы шэсць год—гэта смелая і жвавая дзяўчынка з блакітнымі вочкамі і прыгожымі рысамі твара. Цэлы дзень яна клапоціцца і, гледзячы з боку можна падумаць, што яна занята справамі вельмі і вельмі важнымі.

Олечкіны справы—цацкі. Трэба іх выцерці, каб не было пылу, трэба скласці ў парадак кнігі. З кніг адну аб пагранічніках яна асабліва любіць і часта просіць маці, каб тая ёй пачытала. У самаробнага Мішкі, зробленага з матэрыі і набітага звычайнай ватай, адарвалася задняя лапка, і Олечка, адшукаўшы іголку з ніткай, сама садзіцца паправіць любімую цацку.

Спраў па горла—і так кожны дзень. Але больш за ўсё Олечка любіць гуляць на дварэ. Жывуць яны на водшыбе вёскі, амаль ля самай граніцы. Калі ўзлезці на дах і добра ўгледзецца, здалёк можна разгледзець наш пагранічны слуп. На дварэ Олечцы ніколі не нудна. Праедзе нарад пагранічнікаў, і Олечка памахае добрым людзям ручкай; пройдуць, варочаючыся з работы лесарубы, і яны ўжо вітаюць дзяўчынку:

— Малая, добры дзень!

Олечка пытаецца:

— ... дзе ёлачка?

— ... калі зрубіць маленькую густую ...

— ... ко абавязкова!—крычаць ёй ... радасна ляскае ў далоні. ... ма прыяцелек і адна... на. А як задаволена ... чнікі запрашаюць ... уць яе з сабой. ... цэлы месяц! ... праўда гаво... ... е, аб ...

— Праўда, а як-жа!—сур'ёзна адказвалі ёй байцы, забываючы аб тым, што перад імі такі юны субяседнік.

Але не заўсёды Олю Ціхановіч выпускаюць гуляць на вуліцу. Аднойчы раніцой да іх у дом зайшоў ляснічы і папярэдзіў маці—Елізавету Ціхановіч.

— Таварыш Ціхановіч, сёння ўначы ў лесе прыкмецілі чужога, ідуць пошукі. Калі ён, скажам, да вас забрыдзе, то ўжо вы будзьце ласкавы...

Елізавета Ціхановіч усміхнулася.

— Ужо мы ведаем, што зрабіць.

Олечка стаяла каля маці і слухала, не адрываючы вачэй. Калі ляснічы развітаўся і пайшоў, яна кінулася да маці і стала нецярпліва распытваць:

— Мама, што ён сказаў?

— Ты-ж чула.

— Хто ў лесе?

— Вядома—хто. З таго боку воўк забег.

— Я пайду на вуліцу гуляць. Можна, мама?

— Ты-б лепей, дзетка, не хадзіла.

— Я трошкі.

Елізавета Ціхановіч ласкава паглядзела на любімую дачку. Ну, як-жа ёй адмовіш?

— Пастой, Олечка, і я зараз выйду на вуліцу, тады разам і пойдзем. У мяне работа ёсць.

Оля сама апранулася і выбегла на вуліцу. Оля прызвычаілася да акаляючай цішыні, да леса, які быў вакол дома. Калгас даручыў Ціхановічам ахоўваць гэты лясны ўчастак.

Олечкі яшчэ не было на свеце, калі ў гэтых месцах шлі ўпартыя баі з белапалякамі. Яна зусім недалёка ад дома наткнулася на запушчаны акоп. Колькі было пасля гэтага роспытаў!? Не адрываючыся гатова была слухаць дзяўчынка апавяданні сваякоў аб дваццатым годзе.

Елізавета Ціхановіч вышла ўслед за дачкой і асталася на ганку чысціць пасуду. Час ад часу маці абарачвалася ў той бок, дзе гуляла дачка, і пыталася:

— Ну што, Олечка, „абед гатовы"?

Яшчэ дома Оля сказала маці, што будзе для „Мішкі" варыць суп.

Оля, захопленая гульнёй, нават не чула пытання. Елізавета сышла з ганка, каб паглядзець, як гуляе дачка, і раптам спынілася: ля самага ўскрайку лесу, схаваўшыся за кустамі, ляжаў чалавек.

— Гэта ён,—мільганула думка ў калгасніцы, якая ўспомніла ранішні прыход лясьнічага.

Але Елізавета не выдала свайго хвалявання, нахілілася да дачкі і шапнула ёй:

— Олечка, памятаеш, дзе мы былі з табой на вечары? Бяжы туды і перадай начальніку, каб праслаў байцоў. Не баішся ісці?

— Не, мама,—рашуча сказала дзяўчынка і, абышоўшы дом, хутка знікла.

Елізавета Ціхановіч не спускала вачэй з невядомага і рашыла, што калі ён надумаецца пайсці, яна возьме сякеру і перагародзіць яму дарогу.

Мінуты здаваліся вечнасцю. Хвалюючыся яна ўглядалася ўдаль. Невядомы падняўся і выглянуў з-за кустоў, агледзеўся наўкола, відаць, збіраючыся паўзці далей.

Елізавета кінулася ў хату за сякерай, але ў гэты час, стрымліваючы разгарачаных коней, ля плоту спыніўся атрад пагранічнікаў.

На сядле побач з камандзірам сядзела Олечка.

Невядомы, які аказаўся замежным лазутчыкам, быў злоўлены.

Праз некалькі дзён камандзір прывёз на дом да Ціхановічаў загад НКВД БССР.

Елізавета і Ольга Ціхановіч за праяўленую пільнасць прэміраваны 100 рублямі кожная.

Маці і дачка і зараз дапамагаюць пагранічнікам ахоўваць заходнюю граніцу СССР.



# Дзяды

*(Урывак з паэмы „Радзіме і праўдзе")*

Калгаснай сялібай
Праходзяць дзяды,
На іхным шляху—
Маладыя сады.
І яблык з галінкі
Здымаюць яны—
Румяны, даспелы
І самы буйны.
А там, дзе калісьці
Балота было,
Калгаснае збожжа
Як лес узрасло.
І звяжуць дзяды
Залатыя пучкі:
Ад кожнага поля
Па тры каласкі.
Сустрэнуць іх людзі,
Спытаюць: куды?
— Да Сталіна, у госці!
Адкажуць дзяды.





# ВІШНЯ



*Верш Х. МАЛЬЦІНСКАГА* *Рысунак М. СВЯЦКАГА*

Красуе вішня за акном
І вішанькамі ззяе.
У дзень спякотны ад сябе
Прывабны цень кідае.

Не так прыемна вішня мне,
Як дзеці, што гуляюць;
Лісічкамі яны снуюць
Ля вішні і знікаюць.

Выходжу і сярдую я:
— Шчэ вішні не паспелі,—
Смяюцца дзеці ў адказ:
— Няпраўда!—Мы глядзелі!..

Паказваюць на ягадкі,—
Прывабны, як ніколі.
І вусны мае свецяцца
Усмешкаю міжволі.

Тут дзеці бачаць, што і мне
Сарваць ахота вішні,
І набліжаюцца да дрэў
Са смеласцю ізлішняй.

Адзін з іх хітранька зірнуў,
Кіўнуўшы галавою:
— Вунь тую ягадку ураз
Дастаў-бы я рукою.

Сярдую я тады ізноў:
— Не, рваць яшчэ іх рана.
Вось, паглядзіце на мяне,
Які я ўстрыманы.

Але не хочуць дзеці чуць,
Не хочуць дзеці верыць,
Як толькі адыйду—пачнуць
Рваць ягады без меры.

Красуе вішня за акном
І вішанькамі ззяе,
У дзень спякотны ад сябе
Прывабны цень кідае.

Не так прыемна вішня мне,
Як дзеці, што гуляюць;
Лісічкамі яны снуюць
Ля вішні і знікаюць.

*Пераклаў з яўр. мовы—*
*А. Гейне.*

# КАЗКА

## пра Вераб'я Вераб'ёвіча, Ярша Яршовіча і вясёлага камінара Яшу

*МАМІН-СІБІРАК*

*Рысункі А. ВОЛКАВА*

I

Верабей Вераб'ёвіч і Ёрш Яршовіч жылі неразлучнымі сябрамі. Кожны дзень улетку Верабей Вераб'ёвіч прылятаў да рэчкі і крычаў:

— Гэй, брат, маё шанаванне! Як маешся?

— Нічога, жывем па-маленьку,—адказваў Ёрш Яршовіч.—Ідзі да мяне ў госці. У мяне, брат, усякай вадзяной траўкі колькі хочаш. Пачастую цябе жабінай ікрой, чарвячкамі, вадзянымі казюлькамі...

— Дзякую, брат. Рад-бы пайсці я да цябе ў госці, але вады баюся. Лепш ужо ты прылятай да мяне ў госці на страху... я цябе, брат, ягадамі буду частаваць,—у мяне цэлы сад, а потым дастанем і скарыначку хлябка, і аўса, і цукру, і жывога камарыка. Ты-ж любіш цукар?

— Які ён?

— Белы такі.

— Як у нас галькі ў рацэ?

— Ну вось. А возьмеш у рот—соладка. Тваю гальку не з'ясі. Паляцім зараз на страху?

— Не, я не ўмею лятаць, ды і задыхаюся на паветры. Вось лепш па вадзе паплывем разам. Я табе ўсё пакажу...

Верабей Вераб'ёвіч спрабаваў заходзіць у ваду,—па калені зойдзе, а далей страшна робіцца. Гэтак яно і ўтапіцца можна! Нап'ецца Верабей Вераб'ёвіч светлай рэчнай вадзіцы, а ў гарачыя дні пакупаецца дзе-небудзь на мелкім месцы, пачысціць пер'е і зноў да сябе на страху. Наогул жылі яны дружна і любілі пагаварыць аб розных справах.

— Як гэта табе не надакучыць у вадзе сядзець?—часта здзіўляўся Верабей Вераб'ёвіч.—Мокра ў вадзе, яшчэ прастудзішся...

Ёрш Яршовіч здзіўляўся ў сваю чаргу:

— Як табе, брат, не надакучыць лятаць? Вунь як горача бывае на сонейку: задыхнуцца можна. А ў мяне і не горача, і ні холадна. Плавай сабе, колькі хочаш. Нябось улетку ўсе да мяне ў ваду лезуць купацца... а на страху да цябе хто пойдзе?



калі клікаў Верабей Вераб'ёвіч. Падляціць той да палонкі вады напіцца і крыкне:

— Гэй, Ёрш Яршовіч, ці жывы ты яшчэ?

— Жывы...—сонным голасам адгукаецца Ёрш Яршовіч. — Толькі ўсё спаць хочацца. Ды і наогул не важна. У нас усе спяць.

— І ў нас таксама не лепш, брат! Што рабіць, прыходзіцца цярпець... Ух, які люты вецер бывае!.. Тут, брат, не заснеш... Я ўсё на адной ножцы скачу, каб сагрэцца. А людзі глядзяць і кажуць: „Паглядзіце, які вясёленькі верабейчык!“ Ах, каб толькі вось дачакацца цяпла! Ды ты ўжо зноў, брат, спіш?



— І яшчэ як ходзяць, брат!.. У мяне ёсць вялікі прыяцель—камінар Яша. Ён заўсёды ў госці да мяне прыходзіць. І вясёлы такі камінар,—усё песні спявае. Чысціць коміны, а сам спявае. Ды яшчэ прысядзе на самы канёк адпачыць, дастане хлябка і жуе, а я крошкі падбіраю. Душа ў душу жывём. Я-ж таксама люблю павесяліцца.

У сяброў і непрыемнасці былі амаль аднолькавыя. Напрыклад, зіма. Як мёрз бедны Верабей Вераб'ёвіч! Ух, якія халодныя дні бывалі! Здаецца, уся душа гатова вымярзнуць. Натапырыцца Верабей Вераб'ёвіч, падагне пад сябе ногі і сядзіць. Адзін толькі паратунак—забрацца куды-небудзь у комін і крыху пагрэцца. Але і тут бяда.

Раз Верабей Вераб'ёвіч ледзь-ледзь не загінуў праз свайго лепшага сябра—камінара. Прышоў камінар ды як спусціць у комін сваю чыгунную гіру з памялом,—ледзь-ледзь галаву не праламаў Вераб'ю Вераб'ёвічу. Выскачыў ён з коміна ўвесь у сажы, чарнейшы за камінара, і давай сварыцца:

— Ты гэта што, Яша, робіш? Ды так-жа можна і на смерць забіць...

— А я адкуль-жа ведаў, што ты ў коміне сядзіш? Будзь наперад асцярожней... калі-б я цябе чыгуннай гірай па галаве стукнуў,— хіба гэта добра?

Яршу Яршовічу таксама зімою даводзілася не соладка. Ён забіраўся куды-небудзь у яму паглыбей і там драмаў цэлымі днямі. І цёмна, і халадна, і не хочацца варушыцца. Часамі ён падплываў да палонкі,

А ўлетку зноў свае непрыемнасці. Раз каршун вярсты са дзве гнаўся за Вераб'ём Вераб'ёвічам, і той ледзьве паспеў схавацца ў асаку каля рэчкі.

— Ах, ледзьве жывы ўцёк!—скардзіўся ён Яршу Яршовічу, ледзьве пераводзячы дух.— Вось разбойнік які! Каб яшчэ крыху, дык злавіў-бы, а там памінай, як звалі.

— Гэта накшталт нашага шчупака,—цешыў яго Ёрш Яршовіч.—Я таксама нядаўна ледзь-ледзь не трапіў яму ў зубы. Як кінецца за мною, нібы маланка! А я выплыў з іншымі рыбкамі і думаў, што ў вадзе ляжыць палена, ажно гэта палена як кінецца за мною... і навошта толькі гэтыя шчупакі жывуць на свеце? Дзіўлюся і не магу зразумець...

— І я таксама... Ведаеш, мне здаецца, што каршун калі-небудзь быў шчупаком, а шчупак быў каршуном. Адным словам—разбойнікі.

## 2

Вось так жылі ды пажывалі Верабей Вераб'ёвіч і Ёрш Яршовіч, мерзлі зімою, радаваліся ўлетку; а вясёлы камінар Яша чысціў свае коміны і спяваў песенькі. У кожнага свая работа, свая радасць і свая бяда. Аднойчы ўлетку камінар скончыў сваю работу і пайшоў да рэчкі абмыць з сябе сажу. Ідзе ды пасвіствае, а тут чуе—страшэнны

шум. Што такое здарылася? А над ракою птушкі так і круцяцца: і качкі, і гусі, і ластаўкі, і бекасы, і вароны, і галубы. Усе шумяць, крычаць, рагочуць,—нічога не разбярэш.

— Гэй, вы, што здарылася?—крыкнуў камінар.

— А вось і здарылася...—чырыкнула бойкая сінічка.—Так смешна, так смешна!.. Паглядзі, што наш Верабей Вераб'ёвіч робіць... зусім ашалеў.

Сінічка засмяялася тоненькім-тоненькім галаском, вільнула хвосцікам і ўспырхнула над ракой. Калі камінар падышоў да рэчкі, Верабей Вераб'ёвіч так і наляцеў на яго, а сам страшны такі: дзюба раскрыта, і вочы гараць, усё пер'е стаіць старчма.

— Гэй, Верабей Вераб'ёвіч, ты што гэта, брат, шуміш тут?—запытаў камінар.

— Не, я яму пакажу!—крычаў Верабей Вераб'ёвіч, захлінаючыся ад злосці.—Ён яшчэ не ведае, які я. Я яму пакажу, праклятаму Яршу Яршовічу! Ён будзе мяне помніць, разбойнік...

— Не слухай яго!—крыкнуў камінару з вады Ёрш Яршовіч.—*Усё гэта ён маніць.*

— Я маню?—крычаў Верабей Вераб'ёвіч.— А хто чарвяка знайшоў?.. Я маню? Тлусты такі чарвяк! Я яго на беразе выкапаў... Колькі папрацаваў... ну, схапіў яго і цягну дадому ў сваё гняздо. У мяне сямейства,— павінен я корм насіць... толькі ўспырхнуў з чарвяком над ракой, а пракляты Ёрш Яршовіч,—каб яго шчупак праглынуў!—як крыкне: „Каршун!“ Я са страху крыкнуў, чарвяк упаў у ваду, а Ёрш Яршовіч яго і праглынуў. Гэта называецца зманіць! І каршуна ніякага не было.



— Што-ж, я пажартаваў, — апраўдваўся Ёрш Яршовіч.—А чарвяк сапраўды быў смачны.

Каля Ярша Яршовіча сабралася ўсякая рыба: плоткі, карасі, акуні, верхаводкі,— слухаюць і смяюцца. Так, здорава пажартаваў Ёрш Яршовіч над старым сябрам! А яшчэ смяшней як Верабей Вераб'ёвіч распачаў бойку з ім! Так і налятае, так і налятае, а ўзяць нічога не можа



— Задушыся ты маім чарвяком!—крычаў Верабей Вераб'ёвіч.—Я другога сабе выкапаю. Але крыўдна тое, што Ёрш Яршовіч падмануў мяне і з мяне яшчэ смяецца. А я яго яшчэ да сябе на страху зваў... Добры прыяцель, няма чаго сказаць. Вось і камінар Яша таксама скажа... Мы з ім таксама дружна жывем і нават разам абедаем іншы раз: ён есць—я крошкі падбіраю.

— Пастойце, браткі, гэту самую справу трэба рассудзіць,—заявіў камінар.—Дайце толькі мне спачатку памыцца... Я разбяру вашу справу па справядлівасці. А ты, Верабей Вераб'ёвіч, пакуль крыху супакойся...

— Мая справа справядлівая, што-ж мне непакоіцца?—крычаў Верабей.—А толькі я пакажу Яршу Яршовічу, як з мяне жарты строіць...

Камінар прысеў на беражок, палажыў поруч на каменьчык вузялок з сваім абедам, вымыў [illegible]

— Ну, браткі, цяпер будзем суд судзіць... Ты, Ёрш Яршовіч,—рыба, а ты, Верабей Вераб'ёвіч,—птушка. Так я кажу?

— Так! Так!—закрычалі ўсе: і птушкі і рыбы.

— Будзем гаварыць далей! Рыба павінна жыць у вадзе, а птушка—у паветры Так я кажу? Ну вось... а чарвяк, напрыклад, жыве ў зямлі. Добра. Цяпер, глядзіце...

Камінар разгарнуў свой вузялок, палажыў на камень кавалак ржанога хлеба і сказаў:

— Вось глядзіце: што гэта такое? Гэта хлеб. Я яго зарабіў, і я яго з'ем; з'ем і вадзіцай зап'ю. Верабей Вераб'ёвіч выкапаў чарвячка, значыць, ён яго зарабіў, і, значыць, чарвяк яго..

— Дазвольце, дзядзечка...—пачуўся з птушынага гурту тоненькі галасок.



віч, ты гэта што-ж, сапраўды, маніш?

— Гэта не я маню, а бекас маніць. Ён згаварыўся разам з качкамі...

— Нешта не тое, брат... гм... так! Вядома, чарвячок—пустая рэч; толькі вось нядобра красці. Так я кажу?

— Праўда! Праўда!—хорам крыкнулі зноў усе.— А ты ўсё-такі рассудзі Ярша Яршовіча з Верабей Вераб'ёвічам. Хто з іх праў? Абодва шумелі, абодва біліся і ўзнялі ўсіх на ногі.

— Хто праў? Ах, вы, свавольнікі, Ёрш Яршовіч і Верабей Вераб'ёвіч! Сапраўды, свавольнікі. Я абодвух вас і пакараю для прыклада. Ну, жыва мірыцеся!

— Правільна! — крыкнулі ўсе хорам. —Няхай паміраццa

— А бекасіка-пясочніка, які працаваў, здабываючы чарвячка, я накармлю крошкамі,—парашыў камінар.— Усе і будуць задаволены.

Птушкі расступіліся і пусцілі ўперад бекасіка-пясочніка, які падышоў да самага камінара на сваіх тоненькіх ножках.

— Дзядзечка, гэта няпраўда.

— Што няпраўда?

— Ды чарвячка таго вось я знайшоў... Вось запытайцеся ў качак,—яны бачылі. Я яго знайшоў, а Верабей наляцеў і ўкраў.

Камінар збянтэжыўся. Выходзіла зусім не тое.

— Як-жа гэта так?—мармытаў ён, збіраючыся з думкаю.—Гэй, Верабей Вераб'ё-

— Вельмі добра! — зноў крыкнулі ўсе.

Камінар ужо працягнуў руку па хлеб, а яго і няма. Пакуль камінар разважаў, Верабей Вераб'ёвіч паспеў яго скрасці.

— Ах, разбойнік! Ах, злодзей!--збунтаваліся супроць Вераб'я ўсе рыбы і ўсе птушкі.

І ўсе кінуліся ў пагоню за злодзеем. Акрайчык хлеба быў цяжкі, і Верабей Вераб'ёвіч не мог далёка ўцячы з ім. Яго дагналі якраз над ракой. Кінуліся на злодзея вялікія і малыя птушкі. Адбылася са-

праўдная бойка. Усе так і рвуць, толькі крошкі ляцяць у раку, а потым і акрайчык паляцеў таксама ў раку. Тут ужо схапіліся за яго рыбы. Пачалася сапраўдная бойка між рыбамі і птушкамі. На крошкі растрыбушылі ўвесь акрайчык і ўсе крошкі паелі. Як ёсць нічога не асталося ад акрайчыка. Калі акрайчык быў з'едзены, усе апамяталіся, і ўсім зрабілася брыдка... Гналіся за злодзеем-вераб'ём, ды па дарозе ўкрадзены акрайчык і з'елі. А вясёлы камінар Яша сядзіць на беражку, глядзіць і смяецца. Ужо вельмі смешна ўсё вышла. Усе паўцякалі ад яго, астаўся адзін толькі бекасік-пясочнік.

— А ты што-ж не ляціш за ўсімі?—пытае камінар.

— І я паляцеў-бы, ды ростам малы, дзядзечка. Большыя птушкі задзяўбці могуць...

Прышла Алёнка на беражок, пачала пытацца ў вясёлага камінара Яшы, што здарылася, і таксама смяялася.

— Ах, якія яны ўсе дурныя: і рыбкі, і птушкі! А я падзяліла-б усё—і чарвячка, і акрайчык, і ніхто-б не сварыўся. Нядаўна я падзяліла чатыры яблыкі. Тата прыносіць чатыры яблыкі і кажа: „Падзялі папалам мне і Лізе". Я і падзяліла на тры часткі: адзін яблык дала тату, другі—Лізе, а два ўзяла сабе.





Рысунак ДАВІДОВІЧА

# ДУБ

Над хуткай рэчкай дуб стаіць
З вятрамі шэпчуцца лісты.
І днём і ноччу ён глядзіць
У хвалі чыстае вады.

Пад ім у нізе луг зялёны
І травы сцелюцца, растуць
І пояць іх дажджы штодзённа,
Праменні сонца саграюць.

Г. Змітрэнка

Брагінскі раён.
Астраглядская НСШ.

Рэдактар І. МАСАРСКІ

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Менск. 20.000 экз. Зак. № 618. $2^1/_2$ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № 413.

